Цана асобнага № 30 кап.

# Вольная Беларусь

Тыднёвік палітычны і літэратурны.

Умовы падпіскі:
На год...... 12р. —
На поўгода.... 7р. —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захараўская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.



Ніхай жыве Нізалежная Беларусь!



№ 16. 1918 г. 5-го мая 1918 г. № 16.

## Хрыстос васкрос!

«Васкрэсеніе дзень, прасьвяцімся таржэством і друг друга абымем! Рцем браціі, нінавідзяшчым нас і тако вазапіім: Хрыстос васкрэсе із мертвых, сьмерцію сьмерць папрау і сушчым ва грабех жывот даравау.»

Так, ва-ісьціну так: і сушчым ва грабех жывот (жыцце) даравау. Паустала к жыццю і наша айчына, наша бацькаушчына Беларусь. Больш за трыста год панавала над ей сьмяртэльная ціша, і ворагі нашы па перабой цьвярдзілі, што Белая Русь памерла і ні васкросьне ніколі. Але жыватворны дух адвечнаго жыцця ажыць завітау і над ею. Белая Русь уваскросла і цьверда стала на грунт дзяржаунай нізалежнасьці. Ужо, пакрытая буйністай збажынаю, шуміць і рувіцца нашая ніва. Ніхай жа расьце і буйнее, ніхай красуе і сьпее на шчасьце й на долю, на карысьць ды на спажытак нашаму народу!

Толькі дзяржауная нізалежнасьць прынясе нам збавенне ад гістарычных мук і нацыянальнаго зьдзеку. Толькі у пяшчотах нацыянальнай культуры мы адтрымаем магчымасьць стаць поплеч с асьвечнымі народамі З.-Эуропы. І хоць зьяуляюцца яшчэ Хомы нівернныя, хоць і палохаюць нас ніяснай будучынай, але вялікая вера наша у перамогу жыцця. Нацыянальнасьць—рэч ніумірушчая, нацыянальнасьць—гэта крыніца жыцця, пачатак поступу, культуры і безмежнаго разьвіцця. Нацыянальнасьць—само жыцце і яго нісьмяртэльнасьць у межах нашаго уяулення. Жыве нацыя—жыве і чалавецтво.

І калі устае с цішы прамінулых вякоу беларуская дзяржаунасьць і калі аднауляецца яе калішняя слава і паустае Белая Русь, дык грудзі нашы напауняюцца адным жаданнем, адным маленнем: верую, Господзі,—памажы майму нявер'ю! А «въ сей день его же сотвори Господь, возрадуемся и возвеселимся въ онь!».

* * * Z.

«Хрыстос васкрос!»--калісь званы зьвінелі;
Званіцы усе цяпер асірацелі.
Німа звану — па кулі пераліты,
Разносяць сьмерць на сьвет, жудой спавіты.
Увесь Божы сьвет напоунены атрутай,—
То ні Хрыстос, а крыж Яго пакуты...

«Хрыстос васкрос!»—то одгукі сталеццяу,
Іх у школе вучаць на'т малыя дзеці.
Сьвятыя словы—зык пустэлі дзікай,
Іх ні прымаюць у грамадзе вялікай.

А мо' цяпер, посьля сусьветнай мукі,
Да брата брат працягне шчыра рукі
Ды шчыра скажа: «Годзі сьмерці, сьлез!
Браты!.. Хрыстос васкрос»!

Ясакар.



## Вялікодныя, або валачобныя песьні.

Дзень добры дзень, пане гаспадару!
Хрыстос васкрос — Сын Божы!
Да цераз поле да шырокае,
*Хрыстос і т. д. за кожным вершам.*
Да цераз межы залаценькія
Ішлі-цяклі валачоннічкі
Да пыталіся слаунаго пана,
Слаунаго пана, пана гаспадара.
Да чым жа ен уславіуся?
І дабром сваім і дваром сваім.
Вамятаюць дварэ усе павім пяром,
Усе павім пяром, залатым крылом.
Стауляе сталы усе цісовыя,
Засьцілае сталы усе кітайкаю,
Усе кітайкаю, усе зяленаю;
Стауляе кубкі усе срэбляныя,
Налівае кубкі зяленым вінам,
Зяленым вінам, чорным півам,
Чорным півам да салодкім медам.
Зяленае віно — пану гаспадару,
Чорнае піво — для жаны яго,
Салодак мядок — для яго дзяток.
Дай табе Божа, пане гаспадару,
Да піво варыць да сына жаніць.
Гарэлачку гнаці — дачку аддаваці.
Дай табе Божа, пане гаспадару,
І у каморы і у аборы;
Гдзе гара — там жыта капа,
Гдзе лог — там сена стог.
Пане гаспадару, ні кажы нам іці,
Ні кажы нам іці, кажы надарыці.
Да нашы дары ні вялікія:
Валачоннічкі — ні дакучнічкі,
Раз у год ходзяць да Бога просяць.
Пачынальнічку — па дзісятнічку,
Старшаму пяуцу — да капу яйцау,
А кашаланосу да пірог к носу.
Хрыстос васкрос — Сын Божы!
Прош а, пане гаспадару!

(*Чачот*).

* * *

Да на поплауцы да на мураўцы,
Вясна красна на дварэ!
Там дзяцінка да каня пасе,
*Вясна і т. д. за кожным вершам.*
А дзеванька абедаць нясе.
Сядзьма мы паабедайма,
Паабедаушы пагаворыма.
Загадаю табе сем загадак.
Калі адгадаеш, то мая будзеш,
А ні адгадаеш — ні мая будзеш.
— Да што бяжыць да без повалу?
Да што расьце без кораню?
Да што чорно да ні чэрнячы?
Да што бело да ні белячы?
Да што рабо да ні рэбячы?
Да што сіне да ні сінячы?
Да што зялено ні зяленючы?
— Што-б я была за такая панна,
Каб загадак да ні разгадала?!
Вада бяжыць без повалу,
Камянь расьце без кораню,
А жук чорны да ні чэрнючы,
Лебядзь белы да ні белячы,
Дзяцял рабы да ні рэбячы,
Воблако сіне да ні сінячы,
Трава зялена ні зяленячы.
Вясна красна на дварэ!
*(З Мікалаушчыны, Мен. павет.)*

* * *

Пасярод пакояу да стаяла ложа,
Хрыстос васкрос на увесь сьвет!
На той ложы сьпіць паніч гожы.
*Хрыстос і т. д. за кожным радком.*
Сьпіць гадзінку, сьпіць другую,
На трэйцюю прачынаецца,
У сваіх служак да пытаецца:
— Служкі ж мае вярненькія!
Ці паузыходзілі да на небі зоры?
Ці залажоны вараныя коні?
Я паеду к цесьцю у госьці,
Ні так у госьці, як на сьвіданне,
К сваей паненцы на заручанне.
У майго цесьця злоты вароты,
Тын тынаваны, двор мулеваны,
Сады, прысады панасаджваны,
Марскія пташкі папрынаджваны.
Усхадзілась шура-бура,
Сады, прысады паварочала,
Марскія пташкі паразгоньвала.
Зажурылася сьлічна паненка.
— Да ні журыся сьлічна паненка!
Сады, прысады папрысаджваем,
Марскія пташкі папрынаджваема,
Сады, прысады палівадь будзем,
Марскім пташкам пасыпаць будзем.
Сады, прысады да вадзіцаю,
Марскія пташкі да пшаніцаю.
Хрыстос васкрос на увесь сьвет!
(*Адтуль-жа*)

* * *

Пасярод двара да стаяла вярба,
Да на той вярбе — залатая кара.

Прыляцелі тры пташачкі, чарненькія, як галачкі,
Узялі тую кару пашчыкіталі,
Пашчыкіталі да пакідалі.
Вышла-выбегла сьлічна паненка,
Узяла тую кору пазьбірала
Да у хустачку завязала,
Айцу й матцы да ні паказала.
Паказала тром злотнічкам,
Тром злотнічкам да работнічкам.
— Ах, мае ж вы злотнічкі,
Скуйце ж вы мне тры надобачкі!
Першы надобак — залаты кубак,
Другі надобак — залаты персьцянь,
Трэйці надобак — руцьвяны вянец.
Залатым кубкам мед-віно піці,
Залатым персьцьням да мяняціся,
Руцьвяным вянцом да вянчаціся.
Вясна красна на дварэ!
*(Адтуль-жа).*

* * *

О йшлі, брэлі валачобныя,
Валачобныя людзі добрыя.
Хрыстос васкрос, Сын Божы!
Шаталіся, пыталіся
Ды таго сяла, ды таго двара.
*Хрыстос і т. д. за кожнымі двумя вершамі.*
Ды таго двара ды Дземінаго:
Ці дома, дома сам пан Дзема?
Ен хоць й дома ды ні кажацца,
Ды ні кажацца, прыбіраецца.
Надзеваець ен куны-собалі
Й надзеваець ен кунюю шубу.
А патом таго сам пан Дзема
Ні мары многа ды дары скора.
Узяушы сулейку ды у клець па гарэлку.
Ты, хадзяюшка, свае дзельцо знай:
Скавародку у печ, па каубаску у клець,
Кожнаму пяуцу па краснаму яйцу,
Пачынальнічку хопь і парачку.
Хрыстос васкрос, Сын Божы!
*(Манастыршчын. парахвія, Мсьціcл. павет., Магіл. губ.).*

* * *

А што у полі рана гукало?
Рана гукало жыто густое.
Яно гукало чэснаго мужа:
Ой, чэсны муж, сам пан (імя гаспадара).
Ні магу стаяць — каласы дзяржаць,
Колас клоніць — сукалено ломіць,
Саломіну трэсьціць.
Пастой, пастой, жыто густое!
А с панядзелку на усю нядзельку
Сабяру на цябе я жней маладых—
Жнеі маладыя — сяр[illegible]ы залатыя.
Часты ясны зор[illegible]бі,—
А часьцей таго [illegible] на землі.
Во шырок-віcок месяц на небі,—
Шырэ, вышэ стагі на гумне.
А на том гумне, на (імя гаспадара).
А патом таго сам пан (імя гаспадара)
Па гумну ходзіць ды Бога хваліць:
Слава табе Вышняму Богу,
Што есьць с чаго піва варыць,
Піва варыць, сыту сыціць.
Во сыту сыціць, во гасьцей паіць,
Во і тых гасьцей валачобнікау!
Валачобныя людзі добрыя,
Яны год у год павалочуцца,
Яны год у год — на Вялікадня.
*(Адтуль-жа).*

* * *

Па вуліцы па шырокай,
Хрыстос васкрос, Сын Божы!
Ідуць, гудуць валачобнічкі;
Яны ідуць шатаюцца,
Шатаюцца, пытаюцца
Таго сяла вялікаго,
Таго двара багатаго,
Таго хадзяіна туруватаго.
— Пане хадзяін, ці чуеш ты,
Ці чуеш ты, ці відзіш ты?
— Пана хадзяіна дома нетуці,—
Паехау ен у новы горад,
У новы горад суды судзіці,
Суды судзіць ні вялікія,
Ні вялікія, ні малыя:
С пабоу, с паноу па ста рублеу,
А з мужыка па капеяццы.—
— Пане хадзяін, ці чуеш ты,
Ці чуеш ты, ці відзіш ты?
Прышлі к табе сенні госьцікі,
Сенні госьцікі-валачобнічкі,
Гэта сьвято сьвяткуючы,
А другога дажыдаючы,
Суса Хрыста зьвялічаючы,
Цябе с празьнікам паздрауляючы.
Пане хадзяін, ні вялі таміць,
Ні вялі таміць, прыкажы дарыць!
Нашы дары ні вялікія:
Механошы — мерку жыта,
На шпілечку кусок сала,
У лукошачко — пару яец.
Хрыстос васкрос, Сын Божы!
Хрыстос васкрос!
*(с. Данькава, Смаленск. пав.).*



# Заміж фэльетона.

**Апаведанне па заказу.**

(Тэмат запазычаны).

— Даволі! — сказау цьверда рэдактар.—Наперад ні дам больш грошай. Даючы Вам грошы наперад за Вашу літэратурную працу, я прывучаю Вас да гультайства.

— Толькі сягоння хоць троху!—прасіу я.

— А ні... Я досіць давау Вам грошай за Вашы апаведанні, што вы меліся напісаць, і да гэтай пары яны усе ні напісаны.

— Так то так, пане рэдактар...Але-ж грошы надта мне патрэбны цяпер, перад сьвятам, а ахвота да пісання ні заусюды бывае,—сказау я.

— Гэтак толькі гультаі гаворуць... Вось што я Вам скажу, пане Галка... К заутрашняму сьвяточнаму нумэру напішыце якое вяселае апаведанне, і я Вам дам аванс.

— На заутра?!—з задзіуленнем запытау я.

— На заутра,—спакойна казау рэдактар.—А поуначы пойдзе у друк, да $11^1/_2$ мне прынясіце гатовую рэч. Маем 5-ю гадзіну... Яшчэ есьць час. Ні роман які я заказываю Вам, а апаведанне... Будзеце мець грошы,—раптам скончыу ен.

Я паглядзеу на рэдактара: залезная цьвердасьць была выяулена на яго твару (о, я ведаю упартасьць яго!). Гаварыць болей было лішне. Я зрабіу кіслую міну і сказау: прашчайце, пане рэдактар! іду пісаць,—і вышау на вуліцу.

— Піражкі гарачыя!—крычау малец-прадавец і падышоу да мяне. Я мацнуу у адной кішэні, у другой—пуста, чыста...

— Ні люблю гарачых піражкоу,—сказау я, глынуушы сьліну і бордзінька пайшоу уперад. Дарогай я думау, аб чым мне пісаць апаведанне—аб гарачых піражках, ці аб гэтай старэнькай жабрацццы, на каторую я, задумаушыся, амаль ні спаткнууся, ці мо' аб маей сярдзітай жонцы?..

Вось я і дома. Ціхінька, у галешах, пашоу я проста у свой габінэт, сеу перад сталом і, гледзючы на зяленае сукно, стау абдумываць тэмат.

„... Лагодны мароз шчыпле кончыкі вушэй," пісау я. «Сонейко толькі што праснулося і ніахвоча устае з-за лесу са сваей пасьцелькі. Неба чыстае, яснае, і на душы так ясна, пакойна...»

— Міхась, дзе ты?— данесся голас жонкі. Мусі па маей шапцы, што забыуся я узяць с сабой, яна дагадалася, што я дома.

— Дай мне грошай. Трэ ісьці у места,німа што зрабіць на вячэру,—сказала яна, вялікай сваей фігурай зьявіушысь на парозі габінэту.

— Падыдзі сюды, даражэнькая мая, —соладка сказау я,—я хачу табе нешта сказаць.

Я абхапіу яе стан і як—мага ласкава прагаварыу: «міленькая мая! Ні маю сягоння грошай я а ні грошыку»...

Выцягнуушы губы, я хацеу пацалаваць яе, а яна—плясь сваей пухлай рукой мне па губе...

— Сядзі без вячэры!—сярдзіта кінула яна мне і моцна стукнула за сабою дзьвярмі.

Я толькі аблізау губы і усе ткі з някім аблягчэннем уздыхнуу. Я думау: пакінулі мяне у спакою.

Ціха. Во зараз прыдзе шчасьлівая думка, прыгожы малюнак... Дзынкнуу званок... Некага упусьцілі... Ідуць да мяне... Уходзіць кравец Шлема Юдалевіч.

— Паночку! Можа пан быу бы ласкау даць мне троху грошай... за пашыты сурдут? Мне трэ' ехаць у Вільню, каб...

— Ні маю я грошай,—суха абарвау я і паказау пусты портманэт.

Кравец ні здавауся і усе лез у вочы. Я зьмяніу палітыку і загаварыу ласкава:

— Дарагі Шлемка, заутра будуць грошы. Бач—пішу у газэту, адтрымаю за гэта... Тут і аб табе будзе сказана, і я напісау: «Да маладога пісьменніка прышоу раз яго кравец Шлема»...—Відзіш, пападзеш, Юдалевіч, у літэратуру... А толькі сягоння дай мне спакой, мне дораг час.

Вышау Шлемка. Я сказау служанцы, каб нікога ні упускала, а [illegible]ла усім, што гаспадара німа у дому.

Ну,—думаю,—можа ціпер займуся працай. Прачытау я апошнія радкі напісанаго: „На душы ясна, пакойна", і дадау: «мысьлі, як чароуныя матылькі, мігацяць». А у галаве маей наадварот: усе застыло, бытцым хто уліу туды сталярскаго клею.«Што-ж далей?» пытауся я у сябе...

Хаця я захавау сябе у сваей крэпасьці-дому ад гасьцей з надворку, але ні захавау сябе ад майго 5-і гадоваго сынка... Ен убег у маю станцыю, улез на мой пісьменны стол. Посьля, трасучы мяне за рукау, тонінька стау прасіць:

— Татачка, намалюй мне сьвінку с парасятамі!..

Я ні зьвяртау увагі і стараюся запісаць новую ідэю, што найкім дзівам пры такіх варунках прышла мне у галаву.

— Намалюй... с парасятамі! заенчыу зноу сынок, пацягнууся на стале і перакінуу атрамэнтніцу на стол...

— Сам ты парася!—з гневам ускочыу

лёніі. Школьная Рада зьвяртаецца да усіх інстытуцый і прыватным асобам з гарачаю просьбаю падтрымаць грашыма, інвэнтаром і насеннем гэтае добрае начынанне. Ахвяры просяць пасылаць па гэткаму адрэсу: Залатагорская, 2; А. Маліноўскай.



## Майская раніца.

У небі бездонным, дзе хмаркі купаюцца
У золаці яркіх лучоў,
Вольныя песьні што дзень разьліваюцца,
Чуюцца крыкі стрыжоў.
Ціха трапечуцца лісьцці зялёныя,
З ветрыкам мову вядуць;
Вішні, узьняўшыся белай каронаю,
Быццым дзяўчаты цьвітуць.
Поўніцца запахам воздух, ўліваецца
У грудзь жыватворным віном,
Мыецца краска расой, ушіраецца
Сонейка цеплым лучом.
Хмарка за хмаркай плывуць, лёгкакрылыя,
Ціхай задумай паўны.
Эх, як прыгожы вы, раніцы мілыя,
Сьветлыя мары вясны!

* * *

Усьміхнулась, праясьнілась
Глыб бездонных небясоў,
Ясным сонцам асьвяцілась,
У тканку лёгкую акрылась,
Чуць-чуць значных аблакоў.

Як прэд шлюбам маладая,
Прыныдзелілась яна
І на землю пазірае,
Усюды жыццё выклікае,
Ціхай радасьці паўна.

А з зямлі ёй на спатканне
Песьні жаваранкі шлюць
Ад усходу да зьмяркання,
І лясы ёй ў прывітанне
Вярхавінамі гудуць.

**Якуб Колас.**



## З Беларускага слоуніка.

**А.**

Абакула — — обманщикъ.
Абакуліваць — обманывать.
Абяцадло — — азбука, алфавитъ.
Абяцадлавы — азбучный, алфавитный.
Аблік (ад лік) — черты лица, видъ.
Абсалюцыя — отпущеніе грѣховъ.
Авантура-нік — шалость, авантюристъ.
Аустэрыя — — гостиница.
Ауцэнтык — письмен. подлинникъ.
Ауцэнтыкаваць — свѣрятьсъ подлинникомъ.
Агрыст — — крыжоуникъ
Агрысьнік, агрыстовы — " —
Адамашка — шелковая матерія съ узорами.
Адыстар — — точь-въ-точь.
Ажына-ннік — ежевика.
Азард-оуны-оуна— вспыльчивость,-вый, во.
Акавітка — — водка, настоен. на кореньяхъ.
Акраец хлеба — краюха хлѣба.
Аксаміт — — бархат.
Акторка — — дѣйствительная владѣлица или наслѣдница имѣнія.
Актыкацыя — признаніе въ судѣ какой либо дѣловой бумаги.
Актыкаванне — явка, запись документа.
Алекцыя — — избраніе.
Алёсісты — — болотистый
Альос — — топь, зыбкое мѣсто.
Алягорыка — умничанье.
Алягорны — говорящій замысловато.
Амбарас — — хлопоты.
Амбіт-ка — — спѣсивецъ, гордячка.
Амбітны — — недоступный.
Амшара, амшарына мѣсто, поросшее мхомъ.
Амшарышчо — обширное мѣсто, поросшее мхсмъ.
Амшыць — — оконопатить мхомъ.
Андрамоны — трялье.
Аніваэзь — — нисколько,—никакимъ образомъ.
Аномнась — недавно, на дняхъ.
Апараты — — хоругви церковныя.
Аплікант — ученикъ пры адвокатѣ, писецъ сверхъ штата.
Апрабацыя — одобреніе, утвержденіе.
Апрабованы — подтвержденный.
Апшыт-аван — выгнанный со службы.
Аркуш, аргуш — листъ бумаги.
Аржаны — — ржаной.
Артыкул — статья, членъ, параграфъ. Артыкулъ символа вѣры.
Арцабы — — шашки.
Асьпід-ка — злой-я.
Атава — — вторично отрощеная трава.
Атрамэнт — чернилы.
Ат — — ат, які ты дураны!
Атэіста — — безбожникъ.
Ацянькі — — поклонъ дѣтскій.
Аці, аціць — кланяться, благодарить по-дѣтски.
Аця — — благодарность по-дѣтски.
Ач? — — вишь, хотя, если.
Ач-жа — — вотъ же.

**Б.**

Бабіняц — — паперть, гдѣ стоятъ нищія старухі
Бабіць — — принимать дитя у родительницы.
Бабуся — — бабуля.
Баволна — — вата, хлопчатая бумага.
Бавэлна — —
Бадай — — а чтоб
Багна — — топь, болото.
Багніво — — болотное мѣсто.
Багнэт — — штыкъ
Багнішчо — топь увеличит...
Багра — — пурпурная краска.
Багравіць — абагрять.
Баданне — мышленіе, сужденіе, угадываніе.
Бадзяга — бродяга.
Бадзяцца — бродить, волочиться.
Бажаволле — желаніе излишняго.
Бажаецца — хочется.
Бажанне — — желаніе.
Байда — — свая. Байды биць.
Байдан — — земля подъ пастбищемъ
Байка — — басня.
Байкі — — враки.
Байструк — незаконорожденное дитя.
Бакаляр — — клиросный дьячокъ.
Баконка — — оконце со стекломъ.
Бакшта — — башня, гауптвахта.
Балаканне — балагурство.
Балея — — лохань для стирки бѣлья.
Балеванне — пиршество.
Баляса — — точенный столбикъ у перилъ.

*(Праця будзе),*



**Чарговы нумар «Вольнае Беларусі» выйдзе 19-го мая.**

Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.